www.nv-online.info

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадо...*

**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

№ 84 (4233)

24 кастрычніка 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

•••

На рэспубліканскім семінары па пытаннях жыллёва-камунальнай гаспадаркі А.Р.Лукашэнка заўважыў: “Тое, што 66 працэнтаў насельніцтва краіны станоўча ацэньваюць работу жыллёва-камунальных служб у сваім раёне, горадзе, – гэта ўжо нядрэнна. Праўда, я падвяргаю сумненню, што амаль 70 працэнтаў так задаволены ці хоць крыху задаволены развіццём ЖКГ. Дай бог, каб гэта было так”.

Мастачка Ірына Пуставалава таксама сумняваецца ў тым, што амаль дзве трэці насельніцтва ў нас задаволены работай жыллёва-камунальных службаў. На яе погляд, высокую лічбу можна вывесці і вось такім чынам…




Малюнак Ірыны ПУСТАВАЛАВАЙ.

•••

**Калі Вам трэба працягнуць падпіску на “Народную Волю” на лістапад, то зрабіце гэта, калі ласка, да 26 кастрычніка. Не спазніцеся!**

БЕЗ РУЖОВЫХ АКУЛЯРАЎ



Аляксандр КЛАСКОЎСКІ,
спецыяльна для “Народнай Волі”

## Маршы ў тупік?

“Гарачая восень” скончылася, так і не пачаўшыся. У мінулую суботу пасля малалюднага ды хуткацечнага “Маршу абураных беларусаў 2.0” завадатар вулічных пратэстаў Мікола Статкевіч абвясціў, што наступным разам мяркуе зладзіць акцыю на Дзень Волі, гэта значыць аж увесну.

На маршы ж 21 кастрычніка назіральнікі налічылі паўтары-дзве сотні чалавек. Гэта ўсіх-усіх. У натоўпе ж было шмат журналістаў ды “людзей у цывільным”. Карацей, гэтае вулічнае выступленне відавочна не напалохала ўлады. Хутчэй, што яно толькі ўзмацніла расчараванне праціўнікаў рэжыму.

Увогуле сёння рэжым выяўляе, бадай што, большую гнуткасць, чым тыя, хто называе сябе апазіцыянерамі. Улады зрабілі свае высновы з пратэстаў супраць дэкрэта №3. Па-першае, фактычна замарозілі сам дэкрэт. Па-другое, творча скарысталі для расцярушвання пратэстнага патэнцыялу тактыку дробнага фолу. Ну і, нарэшце, кіроўным вярхам пашэнціла з эканамічнай кан’юнктурай, што дазваляе пакрысе ўзнімаць заробкі.

Тактыка ж дробнага фолу палягае ў тым, што аматараў вулічных выступленняў затрымліваюць прэвентыўна, караюць кароткатэрміновымі арыштамі ды штрафамі. Пры гэтым самі акцыі не разганяюцца, так што ў Захаду няма падстаў казаць пра разгул міліцэйскіх дручкоў. 15 сутак – не той тэрмін, каб кагосьці абвяшчаць палітвязнем. Ну а штрафы – фармальна за парушэнне закона, бо акцыі недазволеныя. А ў Еўропе і самі вялікія законнікі.

Беларусы ж нават не столькі запалоханы, колькі мысляць рацыянальна. Яны задаюць сабе простае пытанне: а дзеля чаго? Дзеля чаго выходзіць на вуліцу менавіта сёння, рызыкуючы трапіць на Акрэсціна, атрымаць штраф, большы за сярэдні заробак, вылецець з працы ці вучобы? Для многіх гэта занадта дарагая цана за сімвалічную дэманстрацыю палітычнай пазіцыі. А большага, лічаць яны, сёння такім чынам відавочна не даможашся. Таму так мала ўдзельнікаў, ды і ў лідараў Беларускага нацыянальнага кангрэса відавочна менее імпэту. Мацнее ўражанне, што акцыі ладзяцца найперш дзеля падтрымання іміджу. Яны не надта прадуманыя, слаба арганізаваныя, лозунгі шаблонныя.

Напрыклад, “Марш абураных беларусаў 2.0” па інерцыі быў скіраваны найперш супраць дэкрэта №3. Але ж “дармаедскі збор” прыпынены, нават вярнулі грошы тым, хто паспяшаўся заплаціць; сам дэкрэт значна перапрацаваны, і новы варыянт яшчэ не пачаў дзейнічаць. Дык супраць чаго пратэст? Патрабаванне ўзняць заробкі – папулісцкае. Па іроніі лёсу, таго ж патрабуе ад вертыкалі і Аляксандр Лукашэнка (і ў яго болей магчымасцяў дамагчыся свайго, чым у кіраўніка БНК Статкевіча). Арганізатары маршу паспрабавалі скарыстаць вострую пасля гібелі ў Печах салдата Аляксандра Коржыча тэму дзедаўшчыны ў войску, але яна прагучала не надта выразна, праз коску.

Больш за тое, і ў гэтым пытанні апазіцыя дзейнічае паасобку. Правацэнтрысты, напрыклад, спрабуюць збіраць подпісы за адстаўку міністра абароны, але іх не ўбачыш на акцыі Статкевіча (як і наадварот), бо адносіны між плынямі ў апазіцыі – мякка кажучы, не таварыскія. І гэта міжусобіца таксама не дадае імпэту палітызаваным беларусам: хай, маўляў, правадыры між сабой разбяруцца, перш чым нас клікаць на плошчу ці куды. І толькі падстаўляць пад удар, бо амбіцый у іх аж занадта, а ўплыў на масы, рэсурс – незайздросны.

Ідэя ж Плошчы (як апафеозу вулічных акцый) на сёння відавочна страціла прывабны арэол. І ў значнай ступені (калі вынесці за дужкі ўплыў украінскіх падзей) яе дыскрэдытавалі акцыі дзеля акцый, што ладзіліся тутэйшымі апазіцыйнымі лідарамі найперш каб падтрымаць уласнае рэнамэ. Нават адносна масавая Плошча-2010 была адметная не толькі брутальным разгонам ды наступнымі пасадкамі, але і жахлівым бязладдзем сярод арганізатараў, у якіх і блізка не было годнага супольнага плана.

Сёння ж з шэрагу прычын рэвалюцыйны, умоўна кажучы, сцэнарый, выглядае тым болей ілюзорна (не кажучы ўжо пра яго велізарныя выдаткі). Дык што, спытаецеся вы, сядзець як мыш пад мятлой? Зусім не. Але, перш чым клікаць на вулічную акцыю, варта прадумваць яе да дробязяў (уключна з пытаннем як мага большай бяспекі ўдзельнікаў), максімальна кансалідаваць актыў і рэсурсы, а не ператвараць у маргінальны рытуал без драйву і дасягальных мэт. Сёння ж, насуперак тэзісу арганізатараў (чыёй мужнасці і ўпартасці варта аддаць належнае), ніякага пашырэння абсягу свабоды не адбываецца. Гэты від актыўнасці закансерваваўся ў маргінальнай нішы. Яшчэ болей, у вачах многіх ідэя вулічнага пратэсту дэвальвуецца, дыскрэдытуецца.

Вось некаторыя лідары прынцыпова не хочуць хадзіць у адведзены пад масавыя мерапрыемствы парк побач са сталічнай плошчай Бангалор. Але калі сабраць на гэтым, як грэбліва кажа хто-кольвек, “сабачым выгане” 150–200 тысяч чалавек, то і міліцыя, і вертыкаль будуць як шаўковыя. І на самым версе да патрабаванняў прыслухаюцца.

Так што пытанне пытанняў для палітычнай апазіцыі – уплыў на масавы электарат. Зразумела, чарнавая праца з насельніцтвам – рэч няўдзячная. Але іншага шляху ў палітычных апанентаў цяперашняй сістэмы няма. Бо сама сістэма, як бачым, жывучая і даволі спрытная. Народ жа не тое што такі ўжо несвядомы – ён проста прыкідвае, дзеля чаго (і ці варта ўвогуле) перці на ражон без дай прычыны.

КАДРЫ

## Требуется… директор!

*В Минской области катастрофически не хватает управленцев. К такому выводу проходишь, открыв раздел «Вакансии» Миноблисполкома.*

Судите сами: ***в Борисовском районе*** свободны должности гендиректора ОАО «Борисовдрев», директора ОАО «Здравушка-милк», директора ОАО «Птицефабрика Велятичи».

***В Вилейском районе*** нет директоров ОАО «Вилейский комбикормовый завод» и «Вилейский райагросервис». В Клецком районе ищут руководителя ОАО «Грицевичи» и директора коммунального сельскохозяйственного унитарного предприятия «Племенной завод «Красная звезда».

***В Пуховичском районе*** требуются директор ОАО «Завод горного воска», директор КПДУП «Марьиногорский завод железобетонных изделий» и директор ОАО «Пуховичский комбинат хлебопродуктов».

***В Солигорском районе*** нет директора в ОАО «Беларуськалий-Агро», *в* ***Молодечно*** – в ПРУП «Молодечненский завод порошковой металлургии».

И это еще далеко не весь список вакантных директорских кресел!

В чем причина такого дефицита кадров? Невысокие зарплаты и большая ответственность?

За комментарием «Народная Воля» обратилась к исполняющему обязанности начальника главного управления организационно-кадровой работы Миноблисполкома **Елене Кунцевич.**

– На сайте изложены только факты, – *говорит Елена Константиновна*. – А то, что в некоторых районах не хватает трех или даже пяти руководителей, – так там разные отрасли представлены. Все нормально, тем более в последнее время количество вакансий значительно сократилось.

**– Еще пару лет назад управленцы не очень охотно шли в госсектор...**

– Сегодня я не сказала бы, что эта тенденция по-прежнему актуальна. Среди тех вакансий, что есть на сайте, найдется штук пять организаций, где тот, кто находится в кадровом резерве, является заместителем руководителя и уже исполняет обязанности директора предприятия. И сейчас проходит своеобразную проверку – такой испытательный период. Назначение руководителя произойдет после того, как подведутся итоги за какой-то определенный период. Поэтому на сегодняшний день ситуация с руководящими кадрами в Минской области вообще не является критичной.

**– Немало скандалов в последнее время было связано с ОАО «Борисовдрев». Смотрю, должность гендиректора этого предприятия снова вакантна…**

– Уже есть кандидатура на эту должность, просто идет длительное согласование контракта. И в данном случае республиканские органы также участвуют в согласовании кандидатуры гендиректора, идет проверка. Сами понимаете – задачи перед руководителем предприятия ставятся непростые.

Но огульно делать вывод по вакансиям сайта о том, что не хватает директоров, невозможно. Потому что половина вакансий будет занята резервистами, которые проходят проверку. А по другой половине вакансий тоже уже с кандидатурами есть ясность, но идет согласование контрактов, оплаты труда, поставленных задач и так далее.

Должна заметить, что в последнее время ситуация с руководящим кадровым составом намного улучшилась. Конечно, было бы идеально, если бы всех назначили в один день. Но увы – процедурные вопросы.

**– А что скажете по поводу зарплат? Еще относительно недавно независимые экономисты отмечали, что директора некоторых предприятий зарабатывали довольно скромно. А ответственность – огромная!**

– Заработная плата руководителя очень зависит от результатов его труда. И если руководитель настроен на результат, то рано или поздно заработает хорошую зарплату. А если кто-то по-прежнему по-советски рассчитывает получать «получку» – ну, извините… Да и добьется ли успеха такой руководитель?

Хочешь заработать – зарабатывай, все в твоих руках.

Если предприятие показывает хорошие результаты, то и директор зарплатой не обижен.

**Марина КОКТЫШ.**

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

Тамара СЯРГЕЙ:

## «Падпалкоўніку Гаркаваму я спачуваю...»



*Хутка будзе два гады, як на чыгуначным вакзале Мінска ў дзень інаўгурацыі Аляксандра Лукашэнкі па абвінавачанні ў крадзяжы была затрымана юрыст і праваабаронца Тамара Сяргей.*

*Амаль два гады яна спрабуе даказаць, што гэта затрыманне адбывалася незаконна, а таксама прыцягнуць да крымінальнай адказнасці за лжывы данос грамадзянку “Тарасову Т.Н.”, якая абвінаваціла праваабаронцу ў рабаванні 300 долараў.*

*На якой стадыі справа Тамары Сяргей знаходзіцца зараз?*

– За гэты час я падала больш за 10 скаргаў у розныя інстанцыі, – *распавядае праваабаронца.* – Пісала ў Мінскую транспартную пракуратуру, пракуратуру Мінскай вобласці і пракуратуру Мінска, звярталася і да міністра ўнутраных спраў **Ігара Шуневіча** і да генпракурора **Аляксандра Канюка.**

Увесь час ідуць адпіскі. У дзеяннях супрацоўнікаў мінскага АУС на транспарце падпалкоўніка **Сяргея Гаркавага** і старшага прапаршчыка **Сяргея Махнача**, якія мяне затрымлівалі, ніхто – ні правяраючыя з ГУУС Мінгарвыканкама, ні пракурорскія работнікі – парушэнняў заканадаўства не знаходзяць. І гэта пры тым, што, як высветлілася, ніякай пісьмовай заявы ад грамадзянкі Тарасавай ніхто не прымаў, яе пашпартныя дадзеныя не запісаў. Чаму тады мяне затрымалі, дапытвалі, абшуквалі?! Больш за 4 гадзіны я правяла ў пастарунку! Паводле нашых законаў, заява ў міліцыю прымаецца толькі ў пісьмовай форме і чалавека абавязкова папярэджваюць пра адказнасць за лжывы данос. Ананімныя звароты не прымаюцца да разгляду, і тым больш па ананімках, калі гэта не паведамленне аб выбуху або тэракце, не праводзяцца працэсуальныя дзеянні! Гаркавы і Махнач груба парушылі ўстаноўлены парадак – гэта ж відавочна. Але на гэта заплюшчваюць вочы іх калегі-міліцыянеры, супрацоўнікі пракуратуры.

Спрабавала я прыцягнуць да крымінальнай адказнасці і “Тарасову Т.Н.”. Але вы ж ведаеце, які адказ атрымала? Такая грамадзянка, *“згодна з даведкай з адраснадаведачнага бюро, у Рэспубліцы Беларусь не значыцца”.* Яшчэ больш нахабна выглядала іншая аргументацыя правяраючых, якая сведчыла пра тое, што шукаць паклёпніцу ніхто не будзе. Мне адказалі, што грамадзянка, якая назвала сябе Тарасавай, магла *“добрасумленна памыляцца”* і таму ў яе дзеяннях *“адсутнічаюць прыкметы складу злачынства, прадугледжанага арт.400 КК Рэспублікі Беларусь (заведама лжывы данос)”.*

**– То бок даказаць сваю правату ў вас не атрымалася?**

– Я яшчэ не скончыла барацьбу. У верасні атрымала адказ на сваю чарговую скаргу з Генеральнай пракуратуры за подпісам начальніка ўпраўлення па наглядзе за выкананнем заканадаўства на транспарце і ў мытных органах **Анатолія Дудкіна**.

Па сутнасці, у ім няма адказу ні на адно маё пытанне. Фармулёўкі, магчыма, крыху іншыя, але сутнасць не мяняецца. А.К.Дудкін напісаў, што дзеянні міліцыянераў, якія мяне затрымлівалі, *«адпавядаюць патрабаванням крымінальнапрацэсуальнага заканадаўства, парушэнняў не бачна»*. У сувязі з гэтым няма і падстаў для прыняцця мер пракурорскага рэагавання. У выпадку нязгоды я магу абскардзіць гэтае рашэнне ў кіраўніцтва Генеральнай пракуратуры.

**– Будзеце гэта рабіць? Вы ж ужо звярталіся асабіста да генпракурора Аляксандра Канюка...**

– Звярталася на самым пачатку ўсёй гэтай абсурднай гісторыі, 11 лістапада 2015 года. Прайшло амаль два гады, шмат што змянілася.

Безумоўна, з адказу Дудкіна бачна пазіцыя Генпракуратуры. Тым не менш я ўсё роўна буду намагацца сустрэчы з намеснікам генпракурора. Чаму гэта для мяне важна?

Справа ў тым, што калі мне далі адказ з Генпракуратуры, значыць, ёсць матэрыялы праверкі. Хачу з імі азнаёміцца і потым канкрэтна аднаму з кіраўнікоў ведамства на асабістым прыёме задаць свае пытанні. Якім чынам праводзілася праверка, што нават у гэтым адказе яны пасаромеліся напісаць прозвішча асобы, якая заявіла, што я скрала ў яе грошы?! Прозвішча “Тарасова Т.Н.” у адказе Генпракуратуры нават не ўзгадваецца. Думаю, невыпадкова. На мой погляд, у пракуратуры выдатна разумеюць абсурднасць сітуацыі, якая склалася, калі паводле вуснай заявы невядомай грамадзянкі затрымліваюць чалавека. Гэта тое самае, што я прыйду ў кабінет да чыноўніка і скажу: «Я – Сяргей Т.Е.». І што, будзе ён са мной размаўляць?

**– Тамара, вы сама не раз тлумачылі прычыну інцыдэнту: маўляў, гэта была правакацыя…**

– …і ў кожным новым адказе, у тым ліку і ў апошнім з Генпракуратуры, я атрымліваю новыя доказы таго, што маю рацыю.

Я абсалютна ўпэўнена, што гэта была правакацыя, арганізаваная спецслужбамі, а падпалкоўнік Гаркавы ўсяго толькі выканаўца, якога цяпер так нязграбна абараняюць. Яго, я лічу, выкарыстоўвалі ўцёмную. Таму аперацыя па затрыманні Сяргей і прайшла так крава. Калі б Гаркавы атрымаў указанне затрымаць мяне хаця б за дзень да спецаперацыі, ён, напэўна, падрыхтаваўся б і правёў яе больш годна. А так, я лічу, у яго не было часу абдумаць, як усё пісьменна абставіць. Ляпілі, як кажуць, з таго, што было. А пад рукой апынулася відавочна асацыяльная асоба, якой за непраўдзівае абвінавачанне паабяцалі нейкі бонус ад міліцыі. Таму паклёпніцу ніхто і не шукае.

**– Калі гэта спланаваная правакацыя, навошта два гады вы спрабуеце даказаць тое, што, хутчэй за ўсё, не дакажаце? Вы ж ведаеце, што будзеце атрымліваць адпіскі ў адказ на свае скаргі.**

– Магчыма, я не дакажу афіцыйна, што Гаркавы і Махнач затрымалі мяне незаконна. Але ж яны гэта ведаюць, і міністр унутраных спраў, і генпракурор, і іншыя чыны ў пагонах – усе яны гэта ведаюць. Больш за тое, на сваім прыкладзе я паказваю іншым беларусам, што ў нашай краіне трэба быць гатовым да такіх правакацый і не баяцца іх. Калі б так, як я, дзейнічалі ўсе, хто ў той ці іншай ступені сутыкнуўся з міліцэйскім свавольствам, то наша міліцыя, думаю, вяла б сябе па-іншаму, супрацоўнікі праваахоўных органаў задумаліся б, дзеля чаго яны ўсё гэта робяць...

Я ўпэўнена, што пераважная большасць тых, хто сёння служыць у органах унутраных спраў, ішлі туды не з думкай парушаць закон. Яны кіраваліся зусім іншымі мэтамі. А зараз, дасягнуўшы пасады, звання, вымушаны выконваць чыесьці абсурдныя ўказанні. Таму як мага часцей усе падобныя сітуацыі трэба даводзіць да лагічнага канца. І я гатова аказваць дапамогу тым, хто апынуўся ў аналагічнай або падобнай сітуацыі.

**– А з падпалкоўнікам Гаркавым вы не сустракаліся? Не хацелі паглядзець яму ў вочы?**

– У нейкай ступені падпалкоўніку Гаркаваму я спачуваю. Я думаю, яму не вельмі падабалася выконваць незаконнае ўказанне. Ён таксама закладнік сістэмы, якая выбудавана ў Беларусі. Калі мы не навучымся супрацьстаяць сістэме гвалту, у краіны не будзе будучыні.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

КРЫМІНАЛ

## Не схаваецца…

Аб’яўлены ў вышук 28-гадовы вадзіцель BMW, які ў ноч на 7 кастрычніка збіў таксіста і паспрабаваў збегчы. Ён быў затрыманы, але затым адпушчаны. Пакуль узбуджалася крымінальная справа, ён з’ехаў з Беларусі.

Следчы камітэт аб’явіў яго ў вышук. Паводле некаторай інфармацыі, месца знаходжання мужчыны вядома.

